● З АРХІВА КДБ

# «ПРАШУ ЎЛІЧЫЦЬ ШЧЫРАЕ ПРЫЗНАННЕ...»

**Трагічнымі для беларускага народа аказаліся 30-я гады. Па звестках НКУС, у БССР у той час быццам бы існавалі шматлікія «контррэвалюцыйныя, шпіёнскія, антысавецкія арганізацыі», якія ставілі мэтай звяржэнне Савецкай улады і рэстаўрацыю капіталізма. Апагей масавых рэпрэсій прыйшоўся на 1937 і 1938 гады.**

**Ахвярамі небывалага тэрору сталі і навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук БССР. Так, у дакладной запісцы ў ЦК ВКП (б) аб фактах засмечанасці асабовага складу і шкодніцтва ў Беларускай Акадэміі навук, падпісанай 25 чэрвеня 1938 г. Наркомам унутраных спраў БССР маёрам Дзяржбяспекі А. Наседкіным, адзначалася, што «пасля рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук БССР, з моманту сваёй арганізацыі і да апошняга часу, — Беларуская Акадэмія навук з'яўлялася ачагом польскіх шпіёнаў, трацкістаў, правых нацыянал-фашыстаў, якія па заданню польскіх разведорганаў, праводзілі актыўную шпіёнскую і шкодніцкую работу ў акадэміі. Акадэмія навук выкарыстоўвалася імі для правядзення актыўнага шкодніцтва ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, эканомікі, гісторыі і інш. галін навукі і народнай гаспадаркі рэспублікі...»**

**У 1938—1938 г. органамі НКУС БССР у Акадэміі навук было арыштавана 57 чалавек, і 22 «удзельніка антысавецкага падполля» з'яўляліся «аб'ектамі распрацоўкі НКУС БССР».**

**Не абышлі чорныя хмары і камсамольскую арганізацыю акадэміі. Як адзначалася на IV Мінскай гарадской камсамольскай канферэнцыі (кастрычнік 1937 г.), «... група ворагаў народа была выяўлена ў камсамольскай арганізацыі АН БССР».**

**У панаваўшай паўсюль атмасферы масавай падазронасці і недаверу, даносчыцтва і шпіёнаманіі вызваленне арыштаваных было шчаслівай выпадковасцю.**

**У студзені 1938 г. органамі НКУС БССР быў арыштаваны Данііл Васільевіч Горбах. Кароткая біяграфічная даведка: Д. Горбах нарадзіўся 17 снежня 1905 года ў Добрушы. Член партыі з 1926 г., у 1931 годзе паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне ў аспірантуру Акадэміі навук. Праз два гады перайшоў на асноўны курс аспірантуры пры Інстытуце філасофіі, дзе правучыўся да 1936 г. У 1935 г. Данііл Горбах з'яўляўся сакратаром камітэта камсамола АН БССР. У 1936 г. ён быў адклікаsuccessfully з аспірантуры на працу ў ЦК КП(б)Б і стаў рабіць інструктарам аддзела школ і навукі.**

**У прад'яўленым абвінавачванні Горбаху ставілася ў віну тое, што ён «з'яўляўся ўдзельнікам контррэвалюцыйнай шпіёнска-трацкісцкай арганізацыі, існаваўшай у акадэміі. Быўшы сакратаром камсамольскай арганізацыі, па заданню ворагаў народа праводзіў работу па бытавому разлажэнню маладых навуковых супрацоўнікаў.**

**Вярбоўка ў контррэвалюцыйную арганізацыю маладых вучоных АН праводзілася Гурыновічам і Горбахам (кіраўнікі камсамольскай арганізацыі) шляхам сістэматычных п'янак, картачнай гульні, азлобленымі размовамі ў адносінах да партыі і Савецкага ўрада на кватэрах Пратасені, Горбаха і інш. Камсамольскую арганізацыю свядома засмечвалі класавачуждымі варожымі элементамі».**

**Г. ГРЫГОР'ЕЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**(Працяг будзе).**

# СЯМ'Ю ЁЙ ЗАМЯНІЎ ХРАМ

Звеніслава (у манашастве Еўпраксія), дачка полацкага князя Барыса, нарадзілася на некалькі гадоў пазней сваёй стрыечнай сястры Прэдславы (Еўфрасінні Полацкай). Пасля таго, як яна добраахвотна надзела манашы клабук, усе грошы і каштоўнасці, якія прызначаліся ёй у якасці пасагу, перайшлі ў манастырскую казну. Менавіта на іх быў пабудаваны вядомы Спаса-Еўфрасіньеўскі храм у Полацку.

Адной з прычын, якія прымусілі Звеніславу пакінуць мірское жыццё і пайсці ў манастыр, было тое, што пасля смерці князя Барыса (1128 г.) кіеўскі князь саслаў усю сям'ю нябожчыка ў Візантыю. На чужыне, не меўшая бацькоўскай апёкі і стану, яна наўрад ці магла прэтэндаваць на замужжа. А калі ўжо суджана ісці ў манастыр, то лепш, лічыла Звеніслава, жыць у родным горадзе, сярод людзей, якія памятаюць аб славе роду Усеслава, пад началам стрыечнай сястры. Духоўнае імя ёй Еўфрасіння выбрала сугучнае свайму — Еўпраксія.

З першага ж дня сястра Еўпраксія з галавой акунулася ў манастырскае жыццё, і з часам стала ў ім своеасаблівым духоўным лідэрам — усё атрымлівалася ў яе хутчэй і лепш, чым у іншых. Хутка сама ігумення (настаяцельніца) стала адчуваць гэта. Еўпраксія стала практычна намесніцай Еўфрасінні. Мяркуюць, што менавіта яна непасрэдна кіравала работай сясцёр па перапісванню кніг для манастырскай бібліятэкі і вяла заняткі ў адкрытай Еўфрасінняй школе для дачок багатых гараджан, у той час як сама ігумення займалася справамі больш важнымі.

Еўпраксія была, несумненна, адной з самых адукаваных жанчын свайго часу. Яна не магла не разумець, што справа адукацыі, якую ўсклала на свае плечы Еўфрасіння, вельмі цяжкая для аднаго чалавека, і таму лічыла сваім абавязкам па магчымасці дзяліць з стрыечнаю сястрой гэту ношу. Звеніслава была сярод тых нешматлікіх веруючых, якія суправаджалі Еўфрасінню ў яе паломніцтве ў Іерусалім, да гроба Гасподня. Там, у святым месцы, ёй давялося быць да канца побач з паміраючай ігуменняй і ўскласці на сябе ўсе клопаты, звязаныя з яе пахаваннем. У родны Полацк яна вярнулася сведкай велізарнейшага цуда — ціхага, набожнага канца жыццёвага шляху вялікай асветніцы Еўфрасінні Полацкай, якая памерла ў тым месцы, дзе прыняў смерць Хрыстос, гэтым даказаўшы сваю святасць.

Пасля смерці Еўфрасінні павінен быў, урэшце рэшт, стаць яўным «свет мігаючай зоркі Еўфрасінні». Правільнасць такога меркавання пацвярджае ўважлівы аналіз твора «Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра святога Спаса і Найсвяцейшая Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку. Блаславі, Ойча!» (скарочана «Жыціё Еўфрасінні Полацкай»). Аўтар гэтага твора лічыцца невядомым. Спецыялістамі ўстаноўлена амаль дакладна, што напісана яно ў канцы XII стагоддзя. Падрабязнасці ж, звязаныя з многімі момантамі жыцця святой ігуменні, не пакідаюць сумнення ў тым, што пісаў «Жыціё» чалавек, вядома, блізка знаёмы з Еўфрасінняй.

«Жыціё» мала расказвае аб тым, што адбывалася за сценамі манастыра, але шмат месца ў ім надаецца настаўленням ігуменні сёстрам у Хрысце, прыводзяцца даслоўна малітвы, якія ў тым або іншым выпадку ўзносіла да Бога будучая святая. Зусім не паказаны ўдзел Еўфрасінні ў палітычным жыцці княства, але ўзносіцца хвала яе духоўным подзвігам. Таму проста чалавек не можа быць аўтарам гэтага твора. Значыць, пісаў яго манах, які прыняў пастрыг яшчэ ў маладым узросце, а дакладней, манашка: чыста па-жаночаму адабраны эпізоды.

Напрыклад, пасля суровых аскетычных радкоў роздуму Еўфрасінні над філасофіяй чалавечага быцця ідзе амаль меладраматычны эпізод — плач князя Святаслава аб лёсе дачкі, якую замест вясельнага піру і радасці мацярынства чакае жыццё ў пастах і малітвах. Так востра адчуваць тое, чым даводзіцца ахвяраваць з-за ведаў і веры, магла толькі жанчына, якая сама прыйшла ў манастыр. З кнігі «Жыція» можна даведацца аб тым, каго сустракала Еўфрасіння па дарозе ў Іерусалім, якім святым і як пакланялася там, у якім храме прыняла залатое кадзіла і фіміам. Гэта сведчыць аб тым, што аўтар «Жыція» разам з Еўфрасінняй быў удзельнікам святога паломніцтва. А ім мог быць «цень вялікай асветніцы» — Еўпраксія. Яе зорным часам стаў час напісання «Жыція» — першага гістарычнага твора беларускай літаратуры, які па сваёй годнасці набліжаецца да Тураўскага «Златауста» і «Слова аб палку Ігаравым». І гэта — феномен, характэрны толькі для нашай радзімы, бо ні ў адной з рускіх крыніц не гаворыцца аб жанчыне-пісьменніцы такога далёкага часу.

Аб тым жа, як ацанілі працу Звеніславы-Еўпраксіі яе сучаснікі, можна меркаваць па таму, што Радзівілаўскі летапіс дакладна адзначае час смерці Еўпраксіі — 1202 год. Згодна з гэтым летапісам, памерла Еўпраксія ў глыбокай старасці на Суздальскай зямлі. Відаць, да самага канца свайго Еўпраксія працягвала справу асветніцтва сярод святых сясцёр, перададзеную ёй Еўфрасінняй. Дзеля гэтага яна наведвала шмат манастыроў. Цела асветніцы было перавезена на радзіму і пахавана ў Бельчыцкім манастыры Барыса і Глеба, заснаваным яе бацькам.

У. МАСЛЯНІЦЫНА.
(«ВМ»)

● У НАШЫХ КАЛЕГ

# Філдсаўская прэмія — матэматыку

Доктар фізіка-матэматычных навук Яфім Зельманаў, вядучы супрацоўнік Інстытута матэматыкі СА РАН, працуючы цяпер у Чыкага, атрымаў прэстыжную прэмію за работу ў галіне алгебры. Медаль імя Дж. Філдса расійскаму матэматыку ўручылі 3 жніўня, у дзень адкрыцця Сусветнага матэматычнага кангрэса ў Цюрыху (Швейцарыя).

Прэмія і медаль імя Дж. Філдса заснавана ў 1936 г. У Савецкім Саюзе яе першым лаўрэатам стаў знакаміты Сяргей Новікаў — лідэр расійскіх матэматыкаў (прэмія 1979 г.) Я. Зельманаў — чацвёрты ўладальнік медалю і, можна сказаць,— першы ў Расіі. Высокую ўзнагароду (прэмія разглядаецца як аналаг Нобелеўскай) ён атрымаў за рашэнне вядомай праблемы Бернсайда. Свае вынікі матэматык упершыню дакладваў на алгебраічным кангрэсе, прысвечаным памяці акадэміка А. Мальцава, які праходзіў у 1989 годзе.

# За 8 мільёнаў трэба папацець

**Нядаўна з мэтай стымулявання навукова-тэхнічнага развіцця ўрад Расійскай Федэрацыі пастанавіў заснаваць 50 штогадовых прэмій Урада Расійскай Федэрацыі ў галіне навукі і тэхнікі з прысуджэннем іх, пачынаючы з 1995 года. Памер прэміі — 8 мільёнаў рублёў кожная.**

**Устаноўлена яна як сродак заахвочвання вучоных і спецыялістаў за навукова-даследчыя і доследна-канструктарскія работы, у выніку якіх атрыманы значны эканамічны і сацыяльны эфект, распрацаваны прынцыпова новыя тэхналогіі, прыборы, матэрыялы, абсталяванне, рэчывы, за іншыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, а таксама за стварэнне высакаякасных падручнікаў для адукацыйных устаноў.**

**Пастановай прадугледжана, што ўсе расходы, звязаныя з выплатай грашовай часткі прэмій і з праводзімымі з гэтага выпадку мерапрыемствамі, будуць ажыццяўляцца за кошт асігнаванняў, якія выдзяляюцца з федэральнага бюджэту Міністэрства навукі і тэхнічнай палітыкі РФ на правядзенне навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ.**

**(НАШ КАР.)**

# НАВУКА НАМ ДАПАМОЖА

**У няпростай эканамічнай сітуацыі сустрэла Украіна трэцюю гадавіну абвяшчэння сваёй незалежнасці. Праводзімая лібералізацыя цэн, камерцыялізацыя, жорсткае валютнае рэгуляванне, суровае падаткаабкладанне — гэта ўсё не дало патрэбнага выніку. Становіцца ўсё больш відавочным, што галоўнай састаўной часткай, падставай прагрэсіўных структурных пераўтварэнняў павінна стаць эфектыўная навукова-тэхнічная палітыка.**

**Навука краіны мае багатую гісторыю, важкія дасягненні, агульнавядомыя навуковыя школы, традыцыйна трывалыя сувязі з вытворчасцю. Трэба памятаць, што менавіта тут створан першы паскаральнік зараджаных часцінак, ажыццёўлена першая штучная ядзерная рэакцыя, атрымана «цяжкая» вада, пабудавана першая ў кантынентальнай Еўропе электронна-вылічальная машына. Распрацоўкі ўкраінскіх вучоных даўно маюць значны попыт з боку вядучых сусветных фірмаў.**

**Ужо зараз, вырашаючы праблемы паліўна-энергетычнага комплексу Украіны, вучоныя разам са спецыялістамі аб'яднання «Турбаатам» прапрацавалі выкарыстанне на цеплавых электрастанцыях парагазавых установак і нізкагатунковага вугалю, паглыбленне перапрацоўкі нафты. У перспектыве вельмі карыснай можа быць і прапанаваная вучонымі праграма здабычы шахтнага метана. У цэлым жа праблему энергазабеспячэння, а значыць — і энергазберажэння — можна вырашаць толькі за кошт выкарыстання найсучаснейшых дасягненняў навукі і тэхнікі. Вялікімі праектамі структурнай перабудовы з'яўляюцца падрыхтаваныя вучонымі і спецыялістамі праграмы развіцця чорнай металургіі з выхадам яе прадукцыі на знешні рынак і стварэнне золатаздабываючай прамысловасці Украіны.**

● ГАРЫЗОНТЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА: УКРАІНА

**У полі зроку вучоных знаходзяцца і перспектыўныя, так бы мовіць, стратэгічныя накірункі навукі і тэхнікі, якія могуць быць рэалізаваны ў тых сферах, дзе чакаюцца істотныя змены. Гэта, напрыклад, кардынальнае абнаўленне трубаправоднага транспарту, марскіх перавозак, выкарыстанне новых і нетрадыцыйных крыніц энергіі, у прыватнасці, геатэрмальнай. Тут бачацца і вялікія перспектывы ўвайсці ў магчымыя міжнародныя праекты на ўмовах раўнапраўнага партнёрства. І, безумоўна, стратэгічным накірункам стала навукова-тэхнічнае забеспячэнне інфарматызацыі нашага грамадства, рэалізацыя адпаведнай нацыянальнай праграмы.**

**У сціслыя тэрміны вучонымі быў наладжан рэсінтэз вострадэфіцытных лекавых сродкаў. Створаны новыя антыбіётыкі, інтэрфероны, транквілізатары, кроваспыняючыя, супрацьзапаленчыя, сардэчна-сасудзістыя сродкі, кампазіцыі для растварэння ныркавых камянёў і іншыя прэпараты, якія прайшлі розныя фазы клінічных выпрабаванняў і дазволены да прымянення. Работа над стварэннем новых лекаў не спыняецца.**

**І ўсё-такі трэба прызнаць, што ў цэлым патэнцыял навукі не ў поўнай меры выкарыстоўваецца ў вырашэнні галоўных задач, якія стаяць перад нашай краінай. З-за эканамічных складанасцей паменшылася фінансаванне навукі з дзяржаўнага бюджэту — адносна валавога выпрацаванага прадукта з 3,1 працэнта ў 1990 годзе да 0,6 у 1993-м.**

**Нам вядома, што падобныя цяжкасці перажывае і навука Беларусі — і недахопы фінансавання, і адток кадраў, і складанасці з утрыманнем доследна-эксперыментальнай базы.**

**Сказалася такое становішча і на аб'ёмах супрацоўніцтва паміж навуковымі ўстановамі нашых дзяржаў. Шэраг праграм, у выкананні якіх актыўны ўдзел прымалі інстытуты Акадэміі навук Беларусі, сёння прыпынены з-за адсутнасці сродкаў.**

**І ўсё ж, нават у гэтых умовах працягваецца сумесная творчая работа беларускіх вучоных з вядучымі калектывамі Украіны — Інстытутам электразваркі імя Я. Патона, Інстытутам праблем матэрыялазнаўства імя У. Францэвіча, Інстытутам ядзерных даследаванняў...**

**Дае надзею і аптымізм тое, што ў маі гэтага года прэзідэнты акадэмій навук Беларусі, Украіны і Малдовы абмеркавалі пытанні супрацоўніцтва і звярнуліся да глаў дзяржаў з просьбай аб падтрымцы навукі сваіх краін. Былі ўзгоднены новыя прынцыпы супрацоўніцтва, вызначаны пералік прыярытэтных сумесных мерапрыемстваў, якія ўжо пачынаюць рэалізоўвацца як на двухбаковай аснове, так і ў рамках створанай Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук.**

**Зразумела і апраўдана імкненне нашых народаў стварыць у сваіх краінах грамадства, у якім будуць галоўнымі дабрабыт, высокі ўзровень жыцця людзей, мір і сацыяльная справядлівасць. Ажыццявіць гэта без развітай навукі немагчыма. І ёсць упэўненасць у тым, што, як і раней на важных гістарычных этапах нашы народы сумесна вырашалі праблемы, так і зараз намаганні вучоных нашых краін аб'ядноўвацца ў рэалізацыі вопыта і ведаў па эфектыўнаму выкарыстанню дасягненняў навукі і тэхнікі ў эканамічным і сацыяльным пад'ёме нашых маладых дзяржаў.**

**Яўген ФЕДАРЭНКА,**
**першы сакратар пасольства Украіны ў Беларусі.**

# «МЫ ТОЛЬКІ ДАПАМАГАЕМ ВАМ...»

3 верасня адбыўся IV з'езд Беларускага Фонду Сораса — рэспубліканскага грамадскага аб'яднання.

З'езд быў сазваны ў адпаведнасці з пажаданнем Джорджа Сораса пашырыць сферы дзейнасці Фонду ў Беларусі і надаць яму статус. На IV з'езде было вырашана стварыць два новыя філіялы Фонду — у Віцебску і Гомелі. Гэтыя аддзяленні атрымалі статус юрыдычнай асобы і будуць праводзіць як свае асабістыя праекты, так і праграмы Фонду.

Былі выбраны дырэктары філіялаў. У Віцебску — В. М. Кірылава, дэкан факультэта сацыяльнай педагогікі Віцебскага педінстытута, кіраўнік міжнароднага плэнера «Малевіч. ІНОВІС. Сучаснасць», дырэктар міжнароднага форума «Нацыі, граніцы, лёс», мастацкі кіраўнік I і II рэспубліканскага фестывалю «Студэнцкая вясна». Дырэктарам філіяла ў Гомелі стаў Ю. І. Варонежцаў, кандыдат тэхнічных навук, член камітэта па экалогіі, віцэ-прэзідэнт Беларускага сацыяльна-эканамічнага саюза «Чарнобыль».

На з'ездзе было выбрана новае кіраўніцтва Беларускага Фонду Сораса ў складзе А. Мінаева, Ю. Загуменцава, М. Сатолінай, Ю. Дракахруста, А. Мілюціна, У. Пеліпася, Р. Фастаўца.

Па рэкамендацыях 20 правадзейных членаў Фонду Сораса было прынята ў яго члены яшчэ 38 кандыдатаў — гэта людзі са ўсіх рэгіёнаў рэспублікі. Зараз агульная колькасць членаў Фонду на Беларусі складае каля 60 чалавек.

Трэба нагадаць, што ў нашай рэспубліцы ФСБ быў заснаваны Дж. Сорасам сумесна з 10 беларускімі грамадзянамі 12 кастрычніка 1992 г. як грамадская арганізацыя. За 2 гады на дабрачынныя мэты амерыканскі філантроп ахвяраваў болей 2.300.000 долараў ЗША.

У час знаходжання ў Мінску ў маі 1994 г. Дж. Сорас паведаміў прысутным аб намеры надаць ФСБ самастойны статус, згодна з якім канчатковае рашэнне па фінансаванню праектаў і праграм будзе прымацца кіраўніцтвам ФСБ у Мінску.

Пасля з'езда ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя. Гаворка засяродзілася вакол ад'езду ў ЗША выканаўчага дырэктара ФСБ Э. Смэдлі.

Уніклівыя журналісты ў ліку іншых задалі пытанне, ці задаволена Элізабэт тым, як ідуць яе справы.

— За два гады, што я пражыла тут, шмат было зроблена ў плане станаўлення нашай арганізацыі. І перш за ўсё мы імкнемся дапамагчы вам у стварэнні адкрытага грамадства.

*Што такое, на вашу думку, адкрытае грамадства? — пыталіся журналісты.*

— Гэта грамадства, дзе ў кожнага чалавека ёсць роўныя правы і роўныя магчымасці ўдасканальваць сябе і само грамадства шляхам навуковай працы і навучання, — адказвала Э. Смэдлі. — Гэта робіцца не па знаёмству, а на падставе здольнасцей і працалюбівасці чалавека. Для тых, хто мае такія мэты, у нас заўсёды адчынены дзверы. Кожны можа прыйсці, запоўніць патрэбныя дакументы і ўдзельнічаць у адкрытым конкурсе па любому праекту, ці сам прапанаваць нейкі праект. Я б хацела, каб усе зразумелі: Фонд не навязвае нічога, а толькі падтрымлівае добрыя імкненні беларускіх грамадзян.

У хуткім часе ў Мінск прыбудзе з Нью-Йорка новы выканаўчы дырэктар ФСБ.

М. АРНОЛЬДАВА.

• БАЛЮЧАЯ ТЭМА

# Дзіця, вартае апекі

**Зараз усе ўстановы АНБ адчуваюць цяжкасці з фінансаваннем. Аднак ёсць сярод іх адна, якая, як любімае дзіця, усё жыццё патрабуе апекі — музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, які знаходзіцца ў будынку грамадскіх навук.**

**Вось месца, дзе можна падыхаць сапраўдным мастацтвам, набрацца глыбіні і мудрасці ў нашых продкаў.**

**Пра гэты музей шмат ужо напісана ў рэспубліканскім друку. Наша газета таксама ўважліва сачыла за тым, што тут адбываецца. У снежні 1992 г. як пра самае змрочнае здарэнне года мы пісалі пра крадзеж з музея двух абразоў Маці Боскай. Аднак імклівы час не дазваляе вызначыць мяжу, што аддзяляе сучаснасць ад гісторыі. 5 мая гэтага года споўнілася 15 гадоў афіцыйнага існавання музея. І паколькі гісторыя яго стварэння і станаўлення больш-менш вядома навуковай грамадскасці, хочацца паглядзець у дзень сённяшні.**

**Расказаць пра гэта мы папрасілі загадчыка музея, доктара мастацтвазнаўства В. Ф. Шматава і намесніка дырэктара ІМЭФ, доктара мастацтвазнаўства А. С. Фядосіка.**



**В. Ф. ШМАТАЎ:**

— Сярод нешматлікіх музеяў рэспублікі (ды і СНД у цэлым) наш мае сваю спецыфіку. Па-першае, гэта адзіны ў рэспубліцы музей, у якім прадстаўлена старажытнабеларуская культура, ды яшчэ ў комплексе. Мы вядзём наведвальнікаў ад археалагічных помнікаў, пачынаючы з эпохі палеаліту, праз аддзел беларускага народнага мастацтва, аддзел жывапісу і скульптуры XV — XIX ст., аддзел старадрукаў, і зусім нядаўна створаны аддзел «Быт і мастацтва Чарнобыльскай зоны». Па-другое, адрозненне ад іншых музеяў у тым, што ён, па-сутнасці, не мае статуса і адпаведна ўсіх структур асобнага музея і існуе на правах аддзела старабеларускай культуры. Па-трэцяе, музей створаны амаль без сродкаў. Каля 90 працэнтаў яго экспанатаў сабраны ў час экспедыцый па ўсёй тэрыторыі Беларусі. У гэтым прымалі ўдзел не толькі супрацоўнікі ІМЭФ, але і энтузіясты з іншых устаноў. Некаторыя каштоўныя экспанаты ахвяраваны музею (як, напрыклад, суцэльны Слуцкі пояс, падараваны лонданскім калекцыянерам А. Цеханавецкім, альбо скульптура «Язэп Драздовіч», ахвяраваная скульптарам Р. Голубевым). І, нарэшце, усю немалую работу па выяўленню, фіксацыі, анаціраванню, апісанню, апрацоўцы і захаванню экспанатаў і нават стварэнню экспазіцыі нашы супрацоўнікі робяць без усялякай аплаты.

Сёння ў музеі захоўваецца і экспануецца каля 20 тыс. экспанатаў. У тым ліку каля 8600 твораў жывапісу, 170 скульптур, 1500 прадметаў этнаграфіі, 288 узораў народнага ткацтва і г. д. Агульная плошча памяшканняў 1200 кв. м, экспазіцыя займае 600 кв. м. Дзякуючы нашым намаганням, летась прэзідыум АНБ вылучыў дадатковую плошчу памерам 50 кв. м для аддзела «Быт і мастацтва Чарнобыльскай зоны». Зараз гэта экспазіцыя шліфуецца, удасканальваецца. Плануем, што ў першай палове будучага года адбудзецца афіцыйнае адкрыццё гэтага аддзела, хаця наведвальнікаў і зараз вельмі шмат.

Асаблівай увагі заслугоўвае выдатна абсталяванае фондасховішча. Тут захоўваюцца абразы, драўляныя скульптуры, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Наведвальнікі з-за мяжы нярэдка дзівяцца, што ў XX стагоддзі можа ляжаць, як кажуць, без руху, столькі нерэстаўрыраваных мастацкіх твораў. А гэта ж каштоўны матэрыял для новых вялікіх экспазіцый, манаграфій, дысертацый, альбомаў, каталогаў. Але на рэстаўрацыю няма сродкаў.

Вялікую каштоўнасць мае фотаархіў, дзе маюцца негатывы і кантролькі з фіксацыяй пераважнай большасці мастацкіх помнікаў, што захоўваюцца ў касцёлах, царквах, фондах іншых музеяў. На многія з гэтых помнікаў заведзены пашпарты з усімі данымі. Усё гэта разам з экспанатамі складае фундаментальную базу для вывучэння гісторыі культуры і мастацтва Беларусі. Зараз у нас 10 супрацоўнікаў. Праца вядзецца ў двух напрамках: навуковая дзейнасць і папулярызацыя старажытнабеларускай культуры.



Пры пэўнай дзяржаўнай падтрымцы і мінімальным умацаванні кадраў можна разгарнуць работу шырока і маштабна. Мы ўжо прыступілі да работы над шматтомным выданнем «Старажытнае мастацтва Беларусі». Першы том — «Жывапіс Заходняга Палесся (XV — XIX ст.)» — падрыхтаваны да друку. Мяркуем выдаць яшчэ шэраг цікавых мастацтвазнаўчых работ.

Надзённым клопатам з'яўляецца пашырэнне музея, яго далейшае развіццё. Сёння мастацтва Сярэднявечча, Рэнесанса і барока фактычна знаходзяцца ў адной зале. Шмат помнікаў у сховішчы, бо музейная плошча не дазваляе выставіць іх на паказ.

Тым часам з абодвух бакоў да памяшкання прылягаюць дворыкі-аркі, якія пры адпаведнай рэканструкцыі могуць стаць дадатковай плошчай для экспазіцыйных залаў. Дарэчы, зараз яны знаходзяць камерцыйнае выкарыстанне пад стаянку машын. Прыстасаваць іх да музея прапануюць і спецыялісты-архітэктары, з якімі мы кансультаваліся. Калі здзейсніць задуму, рэспубліка будзе мець вялікі музей старажытнай культуры і мастацтва.

Нагадаю, што ў апошні час музей пакінулі В. В. Церашчатава, якая ўзначальвала яго з дня адкрыцця, а не так даўно пайшла з жыцця, а таксама многія старэйшыя і маладзейшыя супрацоўнікі, але на работу ніхто не быў прыняты. Ды і не трэба бяздумна пашыраць кадры. Музею патрэбны мінімум. Да таго ж музей — арганізм жывы. Трэба час ад часу папаўняць экспазіцыю новымі рэчамі. Але на набыццё іх (таксама як і на рэстаўрацыю) сродкаў не хапае.

А калі ўтрыманне музея Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору не пад сілу, наша прапанова такая: музей павінен стаць асобнай структурнай адзінкай пры прэзідыуме АНБ.

**А. С. ФЯДОСІК:**

— Па-сутнасці, зараз нашаму інстытуту стала вельмі цяжка ўтрымліваць музей. Не хапае грошай нават на зарплату супрацоўнікам. І мы вымушаны скарачаць людзей. Хутка надыдзе зіма, і можа так здарыцца, што ўсё фінансаванне, якое нам вылучаюць, трэба будзе расходаваць на камунальныя паслугі і ўтрыманне музея.

Вось лічбы. Дзесьці ў сакавіку Інстытут эканомікі, «гаспадар» гэтага будынку, выставіў рахунак у суме 13,5 мільёна рублёў толькі за ўтрыманне будынку (з якіх 8 млн. — за музей). Пазаведамасная ахова выставіла рахунак у 1 млн. 400 тыс. рублёў, а потым, праз месяц — яшчэ 2 млн. 160 тыс. толькі за ахоўную сігналізацыю. Акрамя таго, трэба плаціць за супрацьпажарную сігналізацыю. Вялікія выдаткі не пад сілу нашаму інстытуту. Зараз мы не можам праводзіць экспедыцый, пасылаць людзей у камандзіроўкі, як гэта было раней. У гэтым годзе толькі за кошт тэмы, якая звязана з Чарнобылем, музейныя супрацоўнікі змаглі наведаць Хойніцкі і Веткаўскі раёны. Ужо трэці год не праводзім экспедыцый, цяжкасці ўсё ўзмацняюцца.

Што мы рабілі?

Неаднаразова звярталіся ў прэзідыум з просьбай вырашыць гэтае пытанне. Ці пакінуць музей, як ёсць, за нашым інстытутам, і даваць адпаведнае фінансаванне, ці зрабіць двайное падпарадкаванне музея — каб гаспадарчую частку забяспечваў хтосьці іншы, напрыклад, Міністэрства культуры, а навуковую частку — Акадэмія навук.

Ішла гаворка пра двайное падпарадкаванне з кіраўніцтвам Міністэрства культуры. Яны на гэта не згадзіліся, а прапанавалі нам іншы варыянт: аб'яднаць некалькі музеяў у адзін, каб наш стаў часткай комплекснага музея. Мы ні ў якім разе з гэтым не згодзімся, таму што экспанаты, якія збіраліся энтузіястамі на працягу дваццаці гадоў, могуць разысціся па іншых установах. Страціцца цэласнасць і сапсуецца тая вялікая навуковая работа, якая вядзецца супрацоўнікамі музейнага аддзела і ўсяго інстытута на аснове экспанатаў.

Нарэшце, дзесьці ў канцы мая мы ад імя прэзідыума АНБ звярнуліся ў Вярхоўны Савет РБ з просьбай падтрымаць наш музей, мэтанакіравана вылучыць сродкі. Падпісаў пісьмо віцэ-прэзідэнт АНБ акадэмік Р. Г. Гарэцкі. Але да гэтага часу адказу няма. Праўда, ёсць надзея на станоўчае вырашэнне нашага пытання, таму што да нас добра паставілася Камісія па навуцы і культуры ВС РБ. Ды і час зараз такі, калі патрэбна выкарыстоўваць увесь патэнцыял нацыянальнай культуры для выхавання моладзі.

Яшчэ хачу сказаць, што дрэнна, калі ў каштарысе расходаў на інстытут няма асобнай графы расходаў на музей. Калі б сродкі вылучаліся асобна, побач з расходамі на інстытут, музей не знаходзіўся б у такім цяжкім становішчы.

**Варта прыслухацца да прапаноў спецыялістаў. Музей — наша агульная спадчына, і трэба ўжо сёння вырашыць яго лёс.**

М. ГОГАЛЕВА.



**НА ЗДЫМКАХ: супрацоўніка польскага пасольства (злева) пана М. Зюлкоўскага сустракаюць А. А. Ярашэвіч і В. Ф. Шматаў; каштоўныя вырабы з металу; выратаваныя абразы; у Чарнобыльскім фондзе.**

Фота М. БУДЧАНІНА.

● ВАРТА ПРЫСЛУХАЦЦА

# Кожны можа стаць разумнейшы

Адрозненне разумовай стомленасці ад фізічнай даволі істотнае. Каб аднавіць фізічныя сілы, часта дастаткова спыніць працу і адпачыць. Разумовая стомленасць такім чынам не прадухіляецца. Мозг усё роўна працягвае працаваць, часам яшчэ больш інтэнсіўна.

Не кожны здатны пераключаць работу мозга на іншую, больш лёгкую справу. Нялёгка таксама захоўваць і нейкі рацыянальны рэжым мыслення. І таму для пераадолення разумовай стомленасці я вырашыў павялічыць, так бы мовіць, вынослівасць мозга, заняўся ёгаўскімі практыкаваннямі, галоўнае з якіх — сіршасана, або стойка на галаве.

Асаны ёгі — найбольш прыдатныя для людзей разумовай працы, бо развіваюць мысліцельную дзейнасць, парапсіхалагічныя здольнасці; заходняя ж гімнастыка — для працуючых фізічна, бо выхоўвае ў асноўным сілу, вынослівасць.

У свеце жывога толькі чалавек ніколі не «схіляе галавы». Ён дзейнічае і нават спіць з «высока ўзнятаю» галавой. Такім чынам, з вынаходніцтвам падушкі чалавек асудзіў свой мозг, яго працу на паступовае эвалюцыйнае згасанне. Да таго часу, калі чалавек спаў на зямлі, без падушкі, галава дастаткова забяспечвалася крывёю з неабходнымі пажыўнымі рэчывамі. Гэта, верагодна, і было адной з прычын даўгалецця чалавека (успомнім 900-гадовыя біблейскія персанажы) і незвычайнай вастрыні яго органаў пачуццяў. Тым больш гэта дадатна адбівалася на псіхічнай і разумовай дзейнасці, калі на заранку цывілізацыі былі зроблены эпахальныя дасягненні: вынаходніцтвы агню, рычага, кліна, кола і іншыя, адкрыццё кахання і альтруізму, развіццё ў недасягальнай для нас меры парапсіхалагічных, экстрасенсорных здольнасцей.

Сіршасана была «адкрыта» каля 6 тысяч гадоў назад, магчыма, як прафілактыка адчувальнага рэгрэсу чалавека. Стойка на галаве пазбаўляе стомленасці, садзейнічае эфектыўнай разумовай працы, не кажучы ўжо пра аздараўленчы эфект (папярэджвае захворванні горла і галасавых звязак, паляпшае зрок, забяспечвае нармальнае функцыяніраванне цэнтральнай нервовай сістэмы, усе каналы якой праходзяць праз шыю, і г. д.).

Ёгі рэкамендуюць займацца сіршасанай да 50 гадоў. Але стан майго здароўя прымусіў мяне звярнуцца да яе больш пазней. Смеласці мне прыдаў мой знаёмы, які ўжо пенсіянерам, з вялікім «букетам» хвароб, заняўся ёгай у 60 гадоў, бо губляць яму ўжо не было чаго; і цяпер ён у свае 80 гадоў мае працаздольнасць як у 40-гадовага.

Трэба зазначыць, што сіршасана супрацьпаказана тым, у каго ненармальны крывяны ціск або вельмі дрэнны зрок. Выконваць практыкаванне рэкамендуецца праз 3 гадзіны пасля яды і за гадзіну да яе. Пасля заняткаў пажадана прыняць кантрастны душ.

Можа вам будзе прыдатны мой вопыт выканання сіршасаны. Папярэдне я станаўлюся на кукішкі, выгінаю спіну ўніз (гэтым мімаходам трэніруецца пазваночнік) і схіляю галаву штуршкамі на працягу хвіліны. Трымаю далоні амаль лодачкай, локці разводжу ўбакі, каб атрымаўся роўнастаронні трохкутнік (без аснавання). Злажыўшы рукі на дыванчык, я на далоні змяшчаю макушку галавы. Спіна па-ранейшаму выгнутая. Так стаю секунд 20. Потым падымаюся з каленяў, не адрываючы галавы, набліжаю ногі да яе як мага бліжэй. Такім чынам, тулава стаіць амаль вертыкальна.

Зноў затрымліваюся на 20 секунд і затым лёгка падымаю ногі ўгору і распрамляю іх. Пастава атрымліваецца ўстойлівая, але калі для каго гэта нялёгка, то можна папярэдне прыперціся да сцяны. Можна зажмурыць вочы. Першая стойка — нейкіх 5 секунд, не болей, і практыкаванне выканана. Я павольна апускаю ногі ўніз, страхуючы, каб тулава не ўпала. Для гэтага спіну як мага больш адводжу ў зваротны бок. Зноў хвіліну стаю на кукішках (у гэты час можна выконваць яшчэ якое-небудзь практыкаванне, напрыклад, круціць галавою ў бакі), затым павольна падымаю тулава. Калі адчуваецца раздражняльнасць, увах одзіць у практыкаванне і выходзіць з яго трэба больш працягла.

Сіршасану я раблю раз у суткі, звычайна раніцой. Спачатку час стойкі павялічваў на 10 секунд праз кожны тыдзень, затым — на 15 (гледзячы на самаадчуванне). Часам раблю і адпачынак на дзень-два, каб збіць манатоннасць у практыкаванні, што і прыносіць у асноўным аздараўленчы эфект.

Займаюся сіршасанай (разам з другімі асанамі — для прафілактыкі захворванняў) трэці год. Зараз давёў яе працяглласць да 6 хвілін у дзень.

Дзякуючы гэтаму практыкаванню, я не ведаю стомленасці, час сну ў мяне нават скараціўся без усялякіх адмоўных вынікаў. І вельмі часта ў галаву прыходзяць розныя цікавыя думкі, многія з якіх я нават занатоўваю. А мой знаёмы — ужо сапраўды ёг. Сіршасану, сярод дзесятка іншых асан, ён выконвае па паўтары гадзіны запар. Бадзёры, жыццярадасны, цэлы дзень чытае і друкуе на машынцы, поўны планаў на будучыню.

Вячаслаў МІЛКОЎСКІ.

УСМІХНЁМСЯ З МАСТАКОМ










Мал. Л. Калодзіна.

# Эцюд аб фантазіі

У пачатку стагоддзя французскі псіхолаг Рыбо ўстанавіў, што ўяўленне чалавека дасягае максімума да 14—15 гадоў, а потым пачынаецца непазбежны спад. НТР унесла істотныя карэкцівы ў вывады Рыбо. У нашы дні, калі на дзіця навальваецца лавіна ведаў, разумовае (лагічнае) мысленне развіваецца значна хутчэй і энергічна прыгнечвае ўяўленне. Пік уяўлення прыходзіцца цяпер ужо на 10—11 гадоў. Ды і сам пік змяніўся: менш стала яго вышыня (сіла ўяўлення), больш стромкі спад.

Так, фантазію гасяць — і, на жаль, паспяхова. Да 9—10 класу фантазія выціскаецца на задворкі мыслення. У вну тысячы вучэбных гадзін адводзяцца рашэнню лагічных задач і ніводнай гадзіны — рашэнню задач на фантазію. А потым здзіўляемся, што малады спецыяліст не спраўляецца з творчымі задачамі.

Адным са спосабаў развіцця фантазіі з'яўляецца чытанне навукова-фантастычнай літаратуры (НФЛ), абдумванне і абмеркаванне яе зместу.

Што дае НФЛ?

Развівае фантазію і смеласць думкі. Паказвае сур'ёзныя праблемы, а не канфлікт добрага з лепшым. Падказвае ідэі і тэмы, за распрацоўку якіх можна ўзяцца. Падводзіць да гатовых рашэнняў, якія толькі трэба перавесці на «мову» сваёй навукі. Дапамагае пераадольваць псіхалагічныя бар'еры на шляхах да «шалёных» ідэй, без якіх не можа па-сапраўднаму развівацца навука. Служыць своеасаблівым палігонам для мадэлявання праблемных рашэнняў. Дапамагае ў барацьбе з зарэгламентаванасцю, дэмагогіяй, невуцтвам, унутранай несвабодай, хлуснёй.

Часцей за ўсё НФЛ уздзейнічае на творчы працэс ускосна, паступова змяншаючы псіхалагічную інерцыю, павышаючы ўспрымальнасць да новага.

Фантастыка, па А. Кларку, дапамагае даследаваць будучыню, рыхтуе нас да яе.

Стогадовая гісторыя навуковай фантастыкі сведчыць: у смелых ідэй большая імавернасць ажыццяўлення, чым у ідэй асцярожных. Увогуле ж працэнт рэалізаваных фантастычных ідэй значна перавышае імавернасць выпадковага супадзення. Быццам бы існуе нейкі метад, якім сапраўдныя фантасты інтуітыўна карыстаюцца.

Задача на фантазіраванне адрозніваецца ад рэальнай, тэхнічнай задачы меншымі абмежаваннямі, але і ў навуцы, і ў навуковай фантастыцы добрыя вынікі могуць быць дасягнуты толькі пры высокай культуры мыслення.

Фантазію можна развіваць спецыяльнымі практыкаваннямі. Патрэбны сотні і тысячы спроб, каб думка, скаваная звычнымі, стандартнымі ўяўленнямі, пераадолела псіхалагічныя бар'еры.

Асабліва патрэбна фантазія, калі застаецца нейкі паўкрок да невядомага. Ад немагчымага да магчымага — усяго адзін крок. Гэты крок вельмі цяжкі, але яго трэба зрабіць — і дапаможа ў гэтым фантазія.

Дзякуючы ёй, у любой з'яве можна ўбачыць і тое, чаго ў ёй, магчыма, і няма. Можна жыць так, каб свет уяўляўся не толькі відавочнай рэальнасцю, але і сваімі не выкарыстанымі магчымасцямі. І трэба з дзяцінства трэніраваць не толькі цела, але і фантазію, апошняе нават важнейшае.

Ніякія веды, ніякі прафесіяналізм не заменіць цудоўнай якасці душы, што «выпарваецца» з узростам і перш за ўсё патрабуе захавання,— фантазіі.

Іван КАЛУГІН.

● ГЭТА ЦІКАВА

## У ДЭФІЦЫЦЕ — АЗОН

Сусветная арганізацыя аховы здароўя папярэджвае: яшчэ ніколі ультрафіялетавае выпраменьванне не было так небяспечна для людзей, як зараз.

Згодна з гэтай інфармацыяй, ахоўны слой азона над нашай планетай стаў пагражальна тонкім. Менавіта гэтым тлумачыцца неверагодна інтэнсіўнае ультрафіялетавае выпраменьванне — прычына запалення вачэй, рака скуры, аслаблення імунітэту арганізма супраць інфекцыйных хвароб.

Сусветная арганізацыя настойліва рэкамендуе ўсім пазбягаць доўгага знаходжання пад сонцам у пасляабедзенныя гадзіны, у гарах абавязкова адзяваць сонцаахоўныя акуляры, а на пляжах прымяняць спецыяльныя фільтрацыйныя крэмы.

## РАСПРАЦОЎКА ШТУЧНАГА ВОКА

Амерыканскія даследчыкі робяць першыя крокі па шляху стварэння светаадчувальнай матрыцы ў выглядзе мікрасхемы, якую можна будзе хірургічным шляхам ужыўляць у вочы для аднаўлення зроку ў асоб з пашкоджаннямі фотарэцэптарных клетак сятчаткі вока. Хірургі універсітэта Дж. Гопкінса (Балцімор) прадэманстравалі, што такое аднаўленне зроку магчыма пры непашкоджаных нервовых канчатках фотарэцэптараў, якія можна ўзбуджаць штучнымі электрычнымі сігналамі.

Балцімор скія хірургі ўжо ўжывілі некалькім пацыентам тонкі электрод для ўзбуджэння нервовых вузялкоў, якія перадаюць імпульсы ад сятчаткі зрокаваму нерву, і хаця сятчатка не аднавіла свае функцыі, узбуджэнне праз ўжыўлены электрод дазваляе пацыентам адрозніваць яркія кропкі, узнікаючыя з кожным электрычным імпульсам і фіксіруемыя па даўжыні часу.

## ПАГРОЗА ХВАРОБ НЕ ЗНІКЛА

**Перамога ў барацьбе супраць інфекцый хвароб дэкларавана заўчасна, гаворыцца ў падрыхтаваным групай спецыялістаў дакладзе, прадстаўленым у Нацыянальную акадэмію навук ЗША. Аўтары даклада адзначаюць, што ЗША кепска падрыхтаваны да папярэджвання новых хвароб і вяртання хвароб, якія большасці ўрачоў здаваліся выкаранёнымі, і рэкамендуюць накапліваць вакцыны і пестыцыды для прадухілення эпідэмій у будучым.**

**Пагроза інфекцыйных хвароб не знікла, а стала яшчэ большай, гаворыць Роберт Шоуп (Йельскі універсітэт) — кіраўнік групы спецыялістаў, падрыхтаваўшай гэты даклад, і адзначае, што калі становішча не будзе пастаўлена пад кантроль, краіна можа аказацца перад выявай новых крызісаў накшталт пандэміі СНІДа і пандэміі грыпа ў 1918—1919 гг.**

## ЦАЛЕБНЫ ЯД... СКАРПІЁНА

**Японскія біяхімікі выдзелілі з унутранай высцілкі сасудаў рэчыва, якое павышае крывяны ціск у дзесяць разоў мацней, чым вядомыя да гэтай пары сасудазвужальныя сродкі. Па пабудове малекулы гэта ланцужок з 21 амінакіслаты. Падобнае рэчыва ўваходзіць у склад яду скарпіёна.**

## І Ў РЫБЫ — РАК

Вось ужо на працягу многіх гадоў у шэрагу штатаў ЗША адзначаны выпадкі ракавых захворванняў у прэснаводных рыб.

Маюцца вельмі важкія доказы таго, што ракавыя захворванні рыб непасрэдна звязаны з пападаннем у вадаёмы прамысловых адходаў. У вадзе рэк і азёр, забруджаных такімі адходамі, сустракаюцца і рыбы з пухлінамі неракавага паходжання. Для чалавека небяспеку ўяўляюць не столькі самі пухліны, колькі шкодныя рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў пашкоджаных хваробай рыбах.

**«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»**

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 7.09.94 г.
Зак. 1046.
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123